# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1508) ГОД XXX БЕЛАСТОК 7 КРАСАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Фота Віктара Волкава.

## ЗЛАДЗЕЯЎ НЕ СЕЮЦЬ

У 1976 годзе ў Беластоцкім ваяводстве аднатавана ў два разы менш злачынных вылазак, чым у мінулым годзе. Надалей інкубатарам злачынства з'яўляецца гарадское асяроддзе.

363 мільёны злотых апынулася ў руках зладзеяў на працягу толькі аднаго 1984 года. Кралі ў першую чаргу маёмасць грамадзян, а затым дзяржаўнае або грамадскае дабро.

Вось ідзе па вуліцы стройная жанчына. У элегантным кажушку, на галаве — пушыстая лісіная шапка, у вушах — залатыя завушніцы. Адным словам, мільён на двух нагах.

Зладзеяў найперш зацікавіла лісіная шапка. Хоціць сцягнуць рукою. Пасля прыкмецілі на руках пярсцёнкі. Апетыт завастрыўся. Падбеглі з двух бакоў. Схапілі за рукі.

— З болем ці без болю? — запытаў адзін. Жанчына не паспела яшчэ зразумець, што здарылася, калі другі „апякун" прыткнуў ёй пад нос востры ножык і адначасова апавясціў ёй салодкім тонам:

— Калі без болю, дык закрый зяпу і ўсміхайся да мяне як да каханага.

— У цябе такі прыгожы твар, — захапляўся яго сябра. — Шкада было б яго пазначыць у ёлачку.

І жанчына маўчала. Пасля паясніла, што ад перапалоху не магла дабыць голасу. У бліжэйшым пад'ездзе ачысцілі яе з усяго каштоўнага. Падзялілі дабро на дзве часткі і спакойна разышліся ў два розныя бакі. Усё-ўсюсенька трывала не больш дзвюхтрох мінут часу. Усё — на вачах публікі. Калі жанчына асталася без кажуха, шапкі, кольцаў, завушніц, калі зразумела, што яе абакралі, тады пачала крычаць дзікім голасам, клікаць дапамогу. Адзін са зладзеяў вярнуўся назад і кулаком прылажыў ёй у нос, аж кроў палілася.

— Мела быць без болю! — сказаў і пайшоў сваёй дарогай, а выпадковыя сведкі толькі сябрам па працы расказвалі пра тое, што бачылі, бо гэта ж вельмі цікавае!

Ці асуджаць такія паводзіны людзей?

Вядома, калі б мы не спадзяваліся выключна на тое, што ўсялякае злачынства выкараніць нам міліцыя, але і самі салідарна займаліся барацьбой з наймалейшымі яго праявамі, тады, магчыма, зладзеям і разбойнікам не было б чаго рабіць сярод нас. Але так ідэальна можа быць толькі ў казках. Мы застаемся на Беласточчыне, якая ў статыстыцы па злачынству займае шостае месца ў краіне, значыць месца вельмі высокае. Кляйміць грамадскую абыякавасць у адносінах да зладзеяў і разбойнікаў вядома, неабходна. Перш за ўсё, аднак, трэба бачыць крыніцы гэтай адмоўнай з'явы, разумець глебу, на якой злачынства вырастае.

Беластоцкая пракуратура, для прыкладу, закончыла распрацоўку вялікага махлярства ў Беластоцкім мясным прадпрыемстве, дзе ад студзеня 1980 года да 23 верасня 1983 года дзейнічала зладзейская шайка, якая ўхітрылася вывезці за вароты прадпрыемства амаль 13 тон мяса і мясных вырабаў.

Нездарма я звяртаю ўвагу на гэтыя даты. Быў жа гэта час самага вострага мяснога крызісу ў нашай краіне. Даводзілася пастаяць у даўжэзных чэргах, каб купіць кусочак мяса. Проста толькі святы не палакоміўся б на мяса, калі была б магчымасць вывезці яго з фабрыкі.

І камбінатары прыдумалі спосаб, як абдурыць завадскія стражы. Ды не адзін спо-

(Працяг на стар. 2)

ЯКУБ КОЛАС

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

У хаце вучням не сядзіцца —
Прайшла ахвота ў іх вучыцца;
І сам дырэктар уздыхае,
На Мікалаўшчыну ківае,
У смутку нейкім часта ходзіць,
Аб доме гутарку заводзіць,
Пускае жарты міма вуха,
Яго не цешыць саладуха,
Якая хлопцу падабалась,
Бо вельмі добра удавалась.
— Сказаць, не кепска тут хлапчыне, —
Прамовіць часам гаспадыня, —
А ўсё ж дамок свой моцна цягне,
І кожны к матцы сваёй прагне.
Прышлося ўважыць тут малому
І адвязці яго дадому.
А вучні кніжкі пахавалі
І ўжо Вялікадня чакалі.
Прышла вялікая субота,
Даўно прыпынена работа,
І ўжо пад вечар сама хата
Была прылучана да свята:
Лагоднасць, згода і павага
І вельмі сталая развага
Ўвесь гэты дзень тут панавалі.
І блізкасць свята шанавалі
Старыя, дзеці і падросткі,
І шуму тут не падымалі,
Як будным днём з-за кожнай косткі.
Алесь, Кастусь і Міхаліна —
Сама найшла на іх часіна —
На працу зранку выйшлі самі
І падмялі двор дзеркачамі;
Пясочку потым накапалі
І сцежкі ім панасыпалі;
І гэты дворык так змяніўся,
Так гожа траўкай заіскрыўся,
Што проста глянуць было люба, —
Хоць ты вядзі яго да шлюба.
Мужчыны загадзя пабрылісь,
Вадою цёплаю памылісь,
Бо трэба ж ім было сабрацца
Паехаць ў цэркву спавядацца.
Хоць і казаў Антось, бывала,
Што тут, у лесе, грахоў мала;
Калі ж часамі грэх налучыць,
Аб ім забудзеш, ён не мучыць
І не пашкодзіць ў справах неба,
Але папу аддаць іх трэба.

*(З паэмы „Новая зямля")*



НА МЯЖЫ

# АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ (IV)

Адзін прыцісуты мною да сцяны радны, якому я закідаў абыякавасць да беларускай справы, адказаў: чаго вы ад мяне хочаце, ведайце, што ніхто з маіх выбаршчыкаў ніколі ад мяне не дамагаўся гэтага. На жаль, я веру, што сказанае ім — праўда. Ужо хаця б злыя, вельмі непрыхільныя рэакцыі некаторых чытачоў „Нівы" на мае артыкулы, прысвечаныя нацыянальнай беларускай справе, сведчаць, што здавалася б, сярод свядомых беларусаў, пражываючых у Народнай Польшчы, ёсць такія, якія з заўзятасцю кідаюцца на праявы ўсякага беларускага заангажавання. Людзі гэтыя лічаць, што добра ёсць як ёсць, і калі б гэта ад іх залежыла, дык напэўна не апублікавалі б ніводнага артыкула, прысвечанага працэсу ўпадку беларускай нацыянальнай свядомасці. Як не дзіўна, але галасы такіх беларусаў супадаюць і атаясамліваюцца з тымі праціўнікамі беларусаў, якія з беларускім народам не маюць нічога супольнага.

Калі нават прымем, што беларусаў характарызуе традыцыйная пасіўнасць, дык і ў такім выпадку нельга апрабаваць пасіўнасці нашых прадстаўнікоў у радах. Справа ў тым, што ў такія ці іншыя дзяржаўныя органы выбіраем найлепшых, найбольш асвечаных, перадавых і свядомых людзей. I такія перадавыя людзі не могуць абмяжоўвацца толькі тым, што ім падказваюць выбаршчыкі. Яны мусяць бачыць болей і ясней, чым бачаць іншыя. Іх абавязак — падказваць, ініцыяваць і пастуляваць таксама і тое, што не заўсёды ініцыююць і пастулююць выбаршчыкі.

Зразумела, што было б несправядліва, калі б я ўсіх радных патрактаваў аднолькава і ўсім даў адну і тую ж ацэнку. Трэба сказаць, што асабліва ў апошні час з розных узроўняў нарадовых радаў, у тым ліку і з рады ваяводскай, даходзяць сігналы, якія сведчаць аб тым, што частка беларускіх радных уласціва разумее сваю ролю і пры розных нагодах закранае пасобныя аспекты беларускай праблематыкі. Хочацца верыць, што гэтая здаровая з'ява будзе пашырацца і актывізавацца.

Няма сумненняў, што адвечная беларуская пасіўнасць і зняволенасць, традыцыйная беларуская духоўная падпарадкаванасць маюць шырокі абсяг і вялікую сілу. Заселі яны, як злосныя бактэрыі, у нашых душах, нашых сэрцах і розумах. I ніхто яшчэ дагэтуль не прыдумаў лякарства, якое магло б знішчыць гэтыя страшэнныя мікробы. На жаль, у барацьбе з небяспечнай хваробай мы мусім галоўным чынам карыстацца з так мала радыкальнага сродка, як СЛОВА. Якраз яно з'яўляецца галоўнай зброяй у руках публіцыста, паэта, навукоўца і, зразумела, грамадскага, палітычнага ці рэлігійнага дзеяча. У сувязі з тым, што кожны радны і з'яўляецца грамадска-палітычным дзеячом, не можа ён не карыстацца той жа стылістыкай і тымі ж аргументамі, якімі карыстаюцца журналісты „Нівы", дзеячы Беларускага таварыства, настаўнікі беларускай мовы і ўсе тыя, для каго справа стану беларускай мовы і беларускай свядомасці ў беластоцкай правінцыі не з'яўляецца ні правінцыянальнай, ні перыферыйнай, а справай галоўнай і цэнтральнай.

**(Працяг на стар. 11)**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### І ЖЫЛЫЯ ДАМЫ, І КУЛЬТУРНЫЯ ЦЭНТРЫ

Усё больш шырокі размах набывае ў Старадарожскім раёне жыллёвае і культурна-бытавое будаўніцтва. У вёсцы Шчыткавічы калгаса „Перамога" здадзены ў эксплуатацыю гандлёвы цэнтр і дзіцячы сад. У калгасе „Дружба" заканчваецца будаўніцтва Дома культуры з глядзельнай залай на 400 месц, бібліятэкай, пакоямі для работы гурткоў. Летась у параўнанні з 1983 годам амаль у два разы больш здадзена жылля для працаўнікоў вёскі — 21 дом сядзібнага тыпу, тры чатырохкватэрныя дамы.

Сёлета Салігорскі домабудаўнічы камбінат узвядзе 13 дамоў сядзібнага тыпу ў вёсцы Макарычы, 15 — у вёсцы Палажэвічы, а мясцовыя домабудаўнічыя арганізацыі — 20 дамоў аднакватэрных і два чатырохкватэрныя. Не менш чым 60 зборна-шчытавых дамоў паставіць забудоўшчыкам лясгас.

Акрамя таго, у сельскай мясцовасці сёлета запланавана пабудаваць два дзіцячыя сады, клуб, чатыры магазіны, тры сталовыя.

Паявяцца новыя аб'екты і ў горадзе. Пачнецца будаўніцтва пральні, аптэкі, цырульні. Будуць прадоўжаны работы на ўзвядзенні гарадской ЦЭЦ, каўбаснага цэха. Рыхтуецца праектна-каштарысная дакументацыя на будаўніцтва тыповай раённай бальніцы з паліклінікай.

СПОРТ

■ Трэці раз прайшла ў Японіі міжнародная жаночая марафонская эстафета. Тут выступілі мацнейшыя спартсменкі свету.

Пераможцай гэтых прэстыжных спаборніцтваў стала зборная СССР, за якую выступалі мінчанкі Раіса Смяхнова і Алена Цухло.

■ Беларускі канькабежац Ігар Жалязоўскі стаў чэмпіёнам свету ў спрынтэрскім мнагабор'і, якое прайшло ў Галандыі.

Ён выйграў тры дыстанцыі з чатырох. Прычым, у бегу на 1 000 метраў устанавіў новы сусветны рэкорд: 1 мінута 14,30 секунды.

■ Неаднаразовы чэмпіён свету Аляксандр Раманькоў выйшаў пераможцам буйнейшага міжнароднага турніру фехтавальшчыкаў „Кубак Ромеля".

У фінале ён з лікам 11:9 выйграў у пераможцы Алімпіяды ў Лос-Анджэлесе італьянца Маўра Нума.

■ На першынстве Савецкага Саюза па стральбе з лука вызначыліся беларускія спартсмены.

Дзве залатыя ўзнагароды заваявала магіляўчанка Алена Марфель. Яна ўстанавіла сусветны рэкорд на дыстанцыі 25 метраў — 588 ачкоў з 600.

Барыс Ісачанка з Брэста заняў першае месца ў алімпійскім практыкаванні М-2.

■ На міжнародных спаборніцтвах лёгкаатлетаў у Будапешце вызначыўся віцябчанін Уладзімір Будзько. Ён устанавіў рэкорд БССР у бар'ерным бегу на 400 метраў — 47,27 секунды.

**(Працяг са стар. 1)**

# ЗЛАДЗЕЯЎ НЕ СЕЮЦЬ

саб. Абрэзвалі, для прыкладу, калошы (нагавіцы) ад рабочых штаноў, запіхалі ў іх мяса ці каўбасу і вечарком, пераважна на другой змене, калі цёмна, перакідвалі гэтыя тоўстыя „каўбаскі" цераз плот, каб пасля працы, спакойна прайшоўшы стражніцкую кантролю на варотах, падабраць кілаграмаў пяцьдзесят каштоўнай здабычы.

Знайшліся і больш вынаходлівыя. З гэтага аграмаднага прадпрыемства, апрача мяса, пастаянна вывозяць і косці. Кожны аўтамабіль, які ўязджае за завадскія вароты, тут дакладна важаць, каб пазней вядома было, колькі тавару ён вывозіць. Толькі кілаграм ачышчаных касцей не раўняецца ў цане кілаграму высакаякаснага мяса. Калі тады між некалькімі тонамі касцей пагрузіць у скрынку мяса вагою ў нейкіх 50-60 кг, вядома, што чысты прыбытак апраўдае ўсялякі ўласны выдатак. Вагавы аднатуе дакладна, колькі кілаграмаў грузу прапусціў, а стражнікам — ці захочацца капацца ў шматтонным грузавіку, каб знайсці гэтую скрынку з мясам?

І так гэты гаршчочак насіў ваду, а дакладней кажучы, вазіў мяса, аж да 23 верасня 1983 года. Аказваецца, гэтыя 13 тон мяса складаюць нязначную часцінку агульнай прадукцыі гэтага прадпрыемства і таму аніякі ўнутраны кантроль не змог выявіць недахопу. Трэба было чакаць, каб міліцыя зрабіла засаду і злавіла шафёра разам з яго памочнікам, калі яны дабывалі гэтае мяса з-пад тоўстага слою касцей.

У спісак устаноў і прадпрыемстваў, якія ў апошні час праславіліся зладзействам, трапілі ў Беластоку „Біязэт" і „Цэзас". У „Біязэце" робяць часткі для тэлевізараў, але некаторыя яго рабочыя гандлявалі зусім іншымі часткамі. „Цэзас" — забяспечвае ўсе школы шмат якімі дапаможнікамі, але тут знайшліся хітруны, якія аж на 19 мільёнаў злотых прадалі розных прылад людзям, што са школамі не маюць нічога супольнага.

Яшчэ пракуратура зацікавілася сакольскім гээсам, дзе знайшлі спосаб (не зусім згодны з правам), каб забяспечыць свае патрэбы ў мясных вырабах.

Але аб гэтым усім ужо ў іншы раз, бо злачынцаў не сеюць, і пісаць аб іх, на жаль, будзе яшчэ не адна нагода.

**Віктар Рудчык**

НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

# ЛЮСТЭРКА

Не так даўно амерыканцы, уключыўшы тэлевізары, пачулі тры сенсацыйныя навіны. Па-першае, тэрарысты ўзарвалі амерыканскае пасольства ў Саўдаўскай Аравіі. Усе дыпламаты, у тым ліку пасол і яго сям'я загінулі. Трансліруецца рэпартаж: бульдозеры разгортваюць гару руін і натыкаюцца на знявечаныя трупы людзей.

Аб сваім банкруцтве абвясцілі тры буйнейшыя банкі Злучаных Штатаў.

Рухнуў манархічны рэжым султаната Аман. Вернага слугу Белага дома зверглі паўстанцы.

На справе ж ніякага ўзрыву ў пасольстве не было, банкіры і не думалі згортваць свае справы, а ўлада ў Амане па-ранейшаму ў руках султана Кабуса бен Саіда. Усё тлумачыцца проста: падзеі гэтыя адбываюцца ў тэлевізійным фільме пад назвай „Адлік часу па „Люстэрку". „Люстэрка" — гэта кодавая назва самалёта — каманднага пункта прэзідэнта ЗША, на якім галава дзяржавы павінен узняцца ў паветра ў выпадку ядзернай вайны.

Дзеянне адбываецца на Блізкім Усходзе. Пад выглядам чарговых ваенных вучэнняў амерыканскія марскія пехацінцы высаджваюцца на ўзбярэжжы Саудаўскай Аравіі, з палубы авіяносца падымаюцца знішчальнікі, атакуюць самалёты Ірана і Кувейта; дальнабойныя гарматы амерыканскіх караблёў, што зайшлі ў тэрытарыяльныя воды Амана, без абвяшчэння вайны абстрэльваюць парты і гарады суверэннай дзяржавы.

Ці магчыма яшчэ спыніць гэты крызіс, які фатальна набліжаецца да трагічнай развязкі? Журналісты здабываюць сакрэтныя дакументы, якія сведчаць, што „жыццёвым інтарэсам Амерыкі" на Блізкім Усходзе ніхто і нішто не пагражае, што гаварыць аб „правакацыях" няма падстаў. Але журналістам не ўратаваць мір, калі яго лёс давераны ваяўнічым авантурыстам.

Гэта фільм-папярэджанне аб страшэнных выніках палітычнай безадказнасці.

У „Адліку часу" можна ўбачыць дзеянні многіх сённяшніх амерыканскіх рэалій. Учора ваенныя караблі ЗША адпраўлены ў Чырвонае мора лавіць неіснуючыя міны „чырвоных", сёння іх накіроўваюць туды ўдзельнічаць у ваенных вучэннях, заўтра (хто ведае?) — у новай інтэрвенцыі. Свае злачынныя планы мілітарысты намагаюцца ўтаіць ад грамадскасці, друку. Нядаўна ў Вашынгтоне абвешчана аб стварэнні так званага „пула друку" пры міністэрстве абароны ЗША для асвятлення ваенных аперацый Пентагона. У гэтую групу ўключаны толькі „надзейныя людзі" — давераныя генералаў.

**В. К.**

Паўторнасць непаўторнага

409

Купляй кнігі не для таго, каб імі хваліцца, а каб іх чытаць.

410

Не заўсёды памятаем аб тым, што наша псіхіка гэта свайго роду луг, у якім вельмі многа травы для гадоўлі бараноў.

411

Зняволенне паэтам іскры і вызваленне яе ў полымі ёсць вершам.

412

Многія жанчыны болей цікавяцца партманеткай каханага, чым яго сэрцам.

413

Багацце душы — тавар, які выразна ў наш век абясцэньваецца.

414

Для многіх людзей правы гэта сябры, абавязкі — ворагі.

415

Толькі ўпартая навука дазваляе нам зразумець, што ведаем мала і мусім яшчэ вучыцца.

416

Знаёмячыся з чалавекам, не думай аб тым, што ад яго ўзяць, а аб тым, што яму даць.

417

Сярод моцнасільных многа слабаразумных.

418

Яснасць дня дадзена разумнаму чалавеку для таго, каб мог убачыць тыя глупствы, якія прыйшлі яму ў галаву ноччу.

419

Маліся Богу, каб ніколі да цябе не маліліся людзі.

420

Толькі пастаяннае разуменне сваёй недасканаласці вядзе чалавека ў бок дасканаласці.

421

Ён дзёгаць у сваіх думках кампенсаваў мёдам у сваіх словах.

422

Адзін з беластоцкіх ананімшчыкаў дайшоў да такога азарту, што напісаў ананім на самога сябе.

423

Час гэта настаўнік.

424

Стары афарызм: „час гэта лекар" можна папоўніць — і забойца.

425

Відучасць чалавека раўняецца яго слепаце.

426

Памятай, што ў табе існуе крыніца дабра і крыніца зла і толькі ад цябе залежыць, з якой будзеш чэрпаць.

427

Пытаць па-дурному — паўбяды. Адказваць па-дурному — поўная бяда.

428

Праўдзе цяжка прабіцца на свет, бо яна ідзе з сэрца. Мане лёгка, бо яна злятае з вуснаў.

**Алесь Барскі**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 311

* * *

так ажыць у звіхраваных снах
затрымаўшы у руках белы капялюш
як белы дзень адзін адзінокі
у падскоках лясы растуць
несучы вянок з мёртвых лісцяў
кругом таўсцеюць лугі ад трэцяга маўчання

сам з сабою нямы
пад вокам план ад'ездаў
вярганняў

першая старонка
гусі ў чыстых кашулях
радасная цішыня
бель

другая старонка
родзяца словы-сіраты
шукаюць ветраў у шэрасці

трэцяя старонка
словы пад музыку
у нясконченых танцах
чэрнь

чацвёртая старонка
музыка глухая
адкрываецца цырк
без апраўдання

пятая старонка
бель і чэрнь у маўчанні
гадзіннік без стрэлак
каханне

шостая старонка
нічога пэўнага
я і ты ўчора
сёння — не мы

сёмая старонка
прыбліжаюцца аддаляюцца нашыя параходы
астаюцца рухомыя хвалі

восьмая старонка
пажары верасоў нясуць вясну
у рукавічках трымаем сонца

дзевятая старонка
не названая пагода
на вуліцах чужых
ляцім
куды

дзесятая старонка
зацвітае зямля ружай
святло на дарозе
жыву

адзінаццатая старонка
дно марское святлістае
шуміць лес зялёны
люблю

**Надзея Артымовіч**

## ЧЫМ ЁСЦЬ ШЧАСЦЕ?

Аднаго разу на нарадзіны здарыла мяне бабуля бамбаньеркаю. А я што ж, доўга не задумоўваючыся, разарваў упакоўку і давай усіх частаваць. Толькі адно мяне збянтэжыла — менавіта шакаладзінкі аказаліся надта цвёрдымі, а ром, што меўся быць у салодкіх бочачках, некуды прапаў.

— Ой, хіба надулі вас, — зажартаваў я, — ром спрынцоўкаю пасцягвалі, а вам парожнія пасудзіны прадалі, бы шкарлупіны якія...

— Не бядуй, не надулі, — настаўбурчылася бабуля. — Гэта я ад цёткі твае Тоні дастала перад Калядамі.

І на гэтым справа маіх, даволі фокусных нарадзінавых ласункаў закончылася б. Але аднойчы я, будучы ў цёткі Тоні, зусім не хочучы, ано каб перапыніць хвіліну маўчання ў размове, запытаў яе:

— А дзе ж вы купілі тыя шакаладныя бочачкі, якія далі потым бабцы маёй?

— Якія бочачкі?

— Ну тыя, у якіх меўся быць ром.

— Падарыла мне іх суседка, дастала ад дзяцей на імяніны, што цяперака па-мястоваму святкуюць, але ж вантроба ейная ўжо не тая, шванкуе. Дык аддала іх мне.

Давёўшы такім чынам радаслоўе бочачак да канца (хоць мо яшчэ не зусім), стаў я лепш разумець, што такое шчасце і як мала яно каштуе, калі ўмела да яго падыйсці. Не лакомліва, а дэлікатна.

**Яраслаў Яновіч**

* * *

Давай спалім успаміны
аж сівою грывай дым
закружыцца
мо агчаслівім дні
аблітыя слязьмі
перашытыя ўздыхам
. . . . . . . . . . . . .
мо лягчэй сэрцам жыць будзе?..

**Жэня Мартынюк**

* * *

Ноч з пагашаным святлом —
час, калі не адбіраюць у цябе
найлепшых рысаў.
Тады не трэба ліслівага
ўсміхацца
бо ўжо ў цябе забралі
шчырасць
і адвагу глянуць людзям у вочы
Не трэба баяцца сказаных слоў,
бо не знойдуць яны сярод цемры
дарогі да людзей.
А п'яны джаз,
які выходзіць з ночы
і разам з сном
да танца запрашае тваю галаў,
не здрадзіць...
...бо ён п'яны.

**Мікола Ваўранюк**

### МАЛАЙЧЫНА

Кот Малайчына
узлез на плот,
а злезці не можа.
Сядзіць доўга, чакае,
можа яму
хто-небудзь паможа?
Прайшла дзяўчынка,
хлопчык, дзіцятка —
ніхто не знімае
ката Малайчыну.
Ужо і сонца заходзіць
і вечар стае.
А кот не зыходзіць,
аб чым думае?
А думка такая:
узлезці я ўзлез,
а хто мне паможа
і мышку дасць з'есць?..

**Люся Анхім**

Раскалыханыя
ад ветру
дрэвы
выюць
стогнуць
кланяюцца
хмарам
дзякуюць
за ваду
моляцца
за жыццё
як я...

**Яніна Шостак**

*Янку*

баюся я
Ты можа расснуешся
пад зрэнкамі маімі
у баб'ім леце

паветра звонкае
кранае твае пальцы
вочы і вусны
і пінжак наўсцяж

грамы ідуць ад Заблудава
уздыхае вецер — бура сілы
зграбае па-над Беластокам

гуляе вецер валасамі
перасыпае і шапоча
лісцем апаўшым непатрэбным

і рыне раптам дождж
і звяжа
нам рукі з хмарамі
епітрахіляй
і будзем разам
— хоць не можам —
два ручайкі
адной вады

**Міра Лукша**



# РАЗВІТАННЕ З ДЗЯДЗЬКАМ КВАСАМ

Не, не хочацца мне паверыць, што ўжо нікому з нас не давядзецца паціснуць руку Дзядзькі Кваса — Міхаіла Красоўскага, селяніна з вёскі Малынка.

Аднак праўда ёсць няўмольная: няма яго сярод нас, жывых!

Дзядзька, Дзядзька, Дзядзька Квасе, і куды жа ж Ты так паспяшаўся?

Бачу яго, як набірае на вілы велізарную вязку крыхух падсушаней травы і з уздыхам падымае яе над галавою, каб пакласці ў капіцу.

— Бачыш, хмара ідзе, каб яе гаручка! Я ж стараўся, касіў, нябось, браток, 20 вазоў сена ўласнаручна накасіў!

І было гэта ў верасні мінулага года. На сенажаці за Малынкай.

Тады, каб хто мне сказаў, што цераз паўгода не будзе сярод нас Дзядзькі Кваса, дык, дальбог, напляваў бы я яму ў вочы!

21 лістапада 1984 года паехалі мы ў Малынку на хутар да Міхася Красоўскага. Паехалі адзначыць Яго васьмідзесяцігоддзе. З падарункамі, кветкамі і шчырымі пажаданнямі. За чаркай, жартамі і вясёлымі спевамі прайшоў гэты вечар у сям'і Красоўскіх.

Толькі сам Юбіляр паводзіў сябе неяк стрымана, сядзеў і маўчаў, нічога не еў і не піў, толькі курыў. Няўжо прадчуваў, што набліжаецца канец яго блукання па зямлі?

Ён, Дзядзька Квас, не любіў гаманлівага гарадскога жыцця. Яго душа адкрывалася на паўнату існавання пад звонкі спеў салаўя, пад уздзеяннем прасторы пладаносных палёў, у паху яго квітнеючага саду, пад перазвон кос на сенажацях. Найперш трэба было шчыра, нага ў нагу, папрацаваць з ім аж да сёмага поту, а пасля і ён ужо ўступаў у задушэўную гутарку, сыпаў сакавітымі жартамі, заводзіў старынныя і не заўсёды цэнзурныя песні.

Першы раз завітаў я на яго хутар недзе ў самым пачатку сваёй журналісцкай стажыроўкі ў „Ніве", значыць, звыш 20 гадоў таму назад. Атрымаў я загад, каб аформіць скаргу селяніна Міхася Красоўскага на павятовыя ўлады, якія, як ён пісаў, глумяць яго невыноснлівымі налогамі і абавязковымі пастаўкамі ды пагражаюць, што будуць канфіскаваць яго гаспадарку.

Я ўжо не памятаю, ці ўдалося мне яму тады ў чым-колечы дапамагчы. Затое ведаю, што сапраўды Дзядзьку Квасу жылося тады нялёгка. Сям'я вялікая, дзеці або малыя або недзе па школах. Усім дапамагаць неабходна. Усіх канцоў не звяжаш...

З гэтага часу і пачалася маё сяброўства з Міхасём Красоўскім, Дзядзькам Квасам.

Быў ён з таго адыходзячага пакалення нашых бацькоў і дзядуляў, якое прайшло цераз дзве страшэнныя сусветныя вайны, цераз вялікую рэвалюцыю, якая ўскалыхнула светам, цераз „бежанства", якое раскінула нашых людзей па шырокіх прасторах Расіі, цераз санацыйны прыгнёт і нялёгкі перыяд „культу асобы".

Колькі разоў пры шматлікіх нагодах даводзілася мне слухаць вершаваныя творы Дзядзькі Кваса! Сакавітыя, дасціпныя і як жа трапныя ў выяўленні розных адмоўных з'яў у нашым жыцці, у тым ліку і аб нацыянальным рэнегацтве, аб адшчапенцах нашых, якія толькі тады прыпаміналі аб існаванні сваіх бацькоў, калі прыгадвалі, як цудоўна пахне бацькоўская каўбаса.

Жаль, вялікі жаль, што Дзядзька Квас не дачакаўся асобнага зборніка сваіх твораў!

Пахавалі Міхаіла Красоўскага каля Яго продкаў, на могільніку ва ўрочышчы Пяценка, якое ён так любіў і так прыгожа апісаў у сваіх успамінах, друкаваных у „Ніве".

Хай пухам Табе будзе родная зямля, дарагі наш Дзядзька Квасе!

**Віктар Рудчык,**
Фота аўтара




**ВОСЬ ГЭТА ФАЛЬКЛОР!**

Я не буду ўспамагаць А. Барщэўскага, бо ў фальклоры ён ведае ўсё навылет. Не збіраюся таксама крытыкаваць яго пагляды. Я проста ўключаюся паралельна ў размову пра фальклор.

Сустрэў я сёння Гандзю. Прыгожая жанчына, шыкоўная. Пытаю, як жыве, што новага, ці знайшла ўжо сабе таварыша жыццёвага падарожжа (табе ж цяжкавата гадаваць дзіця). Ну, вядома, пажартаваў наконт шлюбнага жыцця.

А Гандзі не да жартаў. Слёзы ў вачах блішчаць. Пачала сёе-тое расказваць. І ашаламіла мяне.

Выйшла Гандзя замуж па каханні. На вяселлі, згодна са звычаем, усе прысутныя давалі падарункі. І вось, калі Гандзя, шчаслівая, кланялася падарункадаўцам, падыйшла да яе сяброўка і палажыла абрусок з уваткнутай у яго іголкай. Гандзя пакланілася, як і ўсім, але ў сэрца кальнула: „Чаму ў абрусе іголка?"

Вяселле адбылося ў маі, а ў снежні Гандзя кінула мужа, за якога выйшла па сваёй волі і ахвоце.

Ад разводу прайшло ўжо дваццаць год, а Гандзя ўсё наракае на лёс, які ёй згатавала сяброўка-чараўніца. Кажа яна, што напэўна жылося б ёй добра, калі б тая не ўсадзіла ў абрусок іголкі і не падарыла яго на вяселлі. Не ведала тады, што гэта значыць. Каб ведала, то палажыла б гэты абрусок пад плашчаніцу. Тады б задуманае сяброўкай вярнулася да яе самой.

Вось гэта фальклор!

А я, цёмны, дагэтуль баяўся толькі хваробы і вайны. Аказваецца, трэба яшчэ баяцца і чараў.

**Васіль Петручук**

**БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ**

Не ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца.

Нічога з нічога не выходзіць.

паміж Берасцейшчынай і Уладзіміршчынай, а ў выніку ўмацоўваў на іх свой уплыў. Раманка ж лічыў, што яму ўдалося зрабіць выдатны інтарэс: памянуць княствы, насельніцтва якіх не палала любоўю да яго за жорсткасць, на абшырную і багатую Галіччыну.

Але ўсе гэтыя радасці Казіміравы і Раманкавы трывалі вельмі нядоўга, бо выгнаны з Галіча князь Уладзімір намовіў караля венгерскага заняць Галіччыну. Таксама, мабыць, галіччане за некалькі месяцаў панавання Раманкі балюча адчулі на ўласнай скуры яго цяжкую руку, бо не далі яму падтрымкі і ён мусіў уцякаць з Галіча. Падаўся, вядома, у былыя свае ўладанні, але Усевалад не схапіў яго ў брацкія абдымкі і не збіраўся аддаваць яму што-небудзь на Уладзіміршчыне і Берасцейшчыне. І так, Раманка з узлётаў па высокі галіцкі пасад зваліўся на палажэнне бяздомнага князя-ізгоя.

Звычайная грызня паміж Раманкам і Усеваладам разраслася ў зацятае братабойчае змаганне. Як і трэба было чакаць, Усевалад карыстаўся моцнай падтрымкай у сваіх новых уладаннях, асабліва на Берасцейшчыне і сярод перасяленцаў з яе на Уладзіміршчыне. Адно дзякуючы не столькі благанням, як пішуць летапісцы, колькі пагрозам ваеннага нашэсця з удзелам полаўцаў з боку Раманкавага цесця князя оўруцкага Рурыка Расціславіча, князь Усевалад выступіў з Уладзіміршчыны і падаўся ў сваё Белзскае княства. Але ён затрымаў пад сваёй уладай Берасцейшчыну, якая аніяк не хацела апынуцца зноў у руках Раманка. Такім чынам хоць на некалькі год Берасцейскае княства вярнула сабе значную незалежнасць ад Валыні і паслабіла залежнасць ад Польшчы. Апанаваўшы Уладзімірскае княства, хцівы Раманка квапіўся і на Берасцейскае. Таму барацьба паміж Уладзімірам з аднаго боку і з другога — саюзнымі Белзам і Берасцем не спынялася.

Падчас гэтай міжусобнай сумятні пачалі ажываць нядаўнія сувязі Берасцейскага княства з Дарагічынскім, Гарадзенскім, Пінскім княствамі, а таксама з Яцвягіяй і Літвою. Гэта не магло падабацца Кракаву.

Казімір Справядлівы асабіста прыбывае ў 1191 годзе да свайго любімца ва Уладзімір на Валынь. Ён нейкім чынам суцішае заядлую грызню паміж Раманкам і Усеваладам і сяк-так уладкоўвае суадносіны паміж імі. Якім коштам — невядома. Аднак з добрым вынікам для самога сябе. Бо зараз жа Раманка і Усевалад разам ідуць дапамагаць Казіміру здабываць Кракаў, які падчас яго прабывання на Валыні захапіў ягоны родны брат Мешка Стары. І дапамога войск пляменнікаў была вельмі дзейснай — Справядлівы адваяваў сабе Кракаў.

Пасля такога трыумфу еднасці можна было б спадзявацца, што паміж княствамі Уладзімірскім, Белзскім і Берасцейскім запануе згода і яны стануць не толькі надзейнымі саюзнікамі кракаўскага князя, але і падлеглай яму моцнай сілай на паўночна-ўсходніх рубяжах яго княства. Аднак справы не склаліся гэтак выгодна для Справядлівага, асабліва на нашым Пабужжы і Панароўі.

З трагічнага лёсу Берасцейскага княства яго заходні сусед — Дарагічынскае княства — зрабіла належныя вывады, што трэба шукаць надзейных саюзнікаў. Невядомы па імю дарагічынскі князь у спробе абараніць незалежнасць сваіх уладанняў ад яўнай пагрозы з боку польска-валынскай вайсковай кааліцыі моцна зблізіўся з Яцвягіяй, Прусіяй, Літвой і, мабыць, гарадзенскім княствам. Ужо і ў тыя часы было добра вядома адно з найважнейшых правілаў вядзення вайны, што найлепшая абарона — гэта атака. Дарагічынцы заахвочваюць дружыны ваяўнічых прусаў і яцвягаў да

(Працяг на стар. 6)

## Легенды нашай зямлі

### „СТРАХ“

80-гадовая Жося Юзвінская з Відава расказвае, як калісьці па начах хадзілі „страхі“.

Адзін раз была ясная ноч. Іван з жонкаю вяртаўся дахаты з вечарынак. Ішлі яны і раптам пачулі — хтосьці за імі ідзе. Яны хутчэй — ён хутчэй, яны бегчы — ён бяжыць. Так беглі, што лабамі адчынілі дзверы ў хату і тады спыніліся. Зачынілі дзверы, а страх застаўся за дэвярыма. Хутка раздзеліся і залезлі на печ, вельмі напужаныя.

А страх, доўга не думаючы, прынёс жэрдку і давай падымаць угло хаты. Гаспадар узяў брытву і кажа: адыдзі, чорце, а то табе лоб абрэжу. А страх не думае адступаць, толькі падымае угло вышэй і вышэй, хоча залезці ў хату. Ужо бачаць гаспадары яго ногі і калені, яшчэ вышэй зруб падымаецца. Іван з жонкаю аж трасуцца на печы і раптам чуюць... заспяваў певень. Усё прапала.

**Андрэй Гаўрылюк**

(Працяг са стар. 5)

### КАМАРЫНЫЯ ЎКУСЫ І МЯДЗВЕДЗЕВА РВАННЕ

нападаў на Мазоўша, Валынь, а нават Малапольшчу. Гэтыя напады пачаткова выглядалі як укусы камара, але з кожным годам мацнелі і станавіліся ўсё болей частымі. Яны перарасталі ў вялікую пагрозу, бо высмоктвалі жыватворныя сілы з гэтых краін — грабілі і палілі гарады ды сёлы, выводзілі натоўпы палону, перараэалі важныя гандлёвыя шляхі, насельніцтва з жахам пакідала паўночна-ўсходнія рэгіёны Мазоўша, Валыні, Малапольшчы.

Дайшло да таго, што горад Дарагічын пераўтварыўся ў своеасаблівую базу знішчажальных паходаў яцвяжскіх дружын на захад і поўдзень. За прыкладам свайго заходняга суседа, таксама, мабыць, і насельніцтва Берасцейскага княства, не інакш як пры патаемным заахвочванні князя Усевалада, прапускала праз сваю зямлю і ўспамагала тыя атрады яцвягаў і літоўцаў, якія кіраваліся за здабычай на Валынь і ў Малапольшчу. Гэта ўжо было не ўкусамі камара, але рваннем клыкоў мядзведзя — станавілася смяротнай небяспекай для Справядлівага і Раманкі.

Казімір добра бачыў, што саюз дрыгавіцкага Пабужжа і Панароўя з іхнімі паўночнымі і ўсходнімі суседзямі ўкараняецца і мацнее. І ў яго былі падставы спадзявацца, што гэтыя разрозненыя напады неўзабаве могуць пераўтварыцца ў суцэльны і безупынны наступ на Мазоўша, Валынь і Малапольшчу. Таму, уладкаваўшы з большага свае справы ў Кракаве пасля нашэсця Мешка Старога ды занадта не спадзеючыся на сілы валынскіх пляменнікаў, пачаў рыхтавацца да вялікага паходу на поўнач.

А пра паход Казіміра Справядлівага праз Пабужжа і Панароўе ў Прусію і Яцвягію — наступным разам.

**Мікола Гайдук**

# ВЫРЭЗБЛЕНЫ СВЕТ



Пакуты Маці (П'ета). Уладзіслаў Свяжбінскі, Беластоцкае ваяводства.

Выстаўка „Сучасная народная разьба са збораў Этнаграфічнага музея ў Торуні“, якую торунскія і беластоцкія музейнікі паказваюць з канца лютага і да паловы красавіка гэтага года ў беластоцкім Акруговым музеі, уражвае не столькі багаццем і разнастайнасцю твораў (іх тут каля ста) і колькасцю аўтараў (недзе каля дзевяноста прозвішчаў), колькі своеасаблівасцю народнага мастацтва. Перш за ўсё кідаецца ў вочы імкненне народных умельцаў дакладна адлюстроўваць рэчаіснасць, каб усё было „як жывое“. Разец народнага мастака пераважна працуе над тым, каб дабыць з кавалка дрэва постаць канкрэтнай асобы, жывёліны ці рэчы найбліжэйшых сэрцу стваральніка. Сваю канкрэтную працу ён кіруе не дзеля замацавання толькі асабістых пачуццяў, але і каб наставіць іншых на правільны шлях, разбудзіць у іх прагу стаць шляхетнымі ў сваіх учынках. Але гэтак ужо ёсць у прыродзе, што кожны разбяр, як усе людзі, бачаць навакольны свет крыху інакш, адны вартасці ставіць вышэй іншых ды і погляды на сэнс жыцця не бываюць аднолькавыя. Затым за-



Пётр і Павел. Уладзімір Наўмюк, Беластоцкае ваяводства.

ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# ЗМАГАННЕ ЗА ДЗІЦЯ

Дануся расла каханым дзіцём, не ведаючы, зразумела, нічога аб сваім трагічна-заблытаным лёсе. Для яе гэты лёс нічым асаблівым не розніўся ад лёсу ўсіх іншых дзяцей, якіх яна сустракала ў суседніх хатах, або ў міхалоўскім касцёле, дзе разам з мамай бывала часценька, амаль у кожную нядзелю.

Жылі яны на хутары і таму Дануся найчасцей аставалася ў кампаніі са сваім брацікам, які таксама не ведаў, што гэтая дзяўчынка, з якой ён дарастаў і гуляў у дзіцячыя гульні, не з'яўляецца яго роднай сястрой, што гэта дзіцё заблытана ў іх сям'ю на крывавых сцежках вайны.

— Мы выхоўвалі яе як родную дачку! — горда заяўляе Яніна Цабай і гэтыя словы ўсё ўжо паясняюць. Значыць, Дануся пераймала ад бацькоў усё тое, чаму яны навучыліся ад сваіх бацькоў, што ў іх культуры і розных надзённых абычаях накапілася на працягу стагоддзяў.

Пацвердзілася старая праўда, што чалавек назаўсёды астаецца не такім, якім ён нарадзіўся, але такім, якім яго выхавалі. Толькі вонкавы выгляд атрымоўваем мы ўжо ў зародку, а ўсё іншае — мову, веравызнанне, светапогляд, культурныя прывычкі — набываем разам з жыццёвым вопытам. Душа чалавека напамінае пустую пасудзіну, адкрытую для жыцця і людскога ўздзеяння. Будзе яна такой, якой запоўняць яе людзі, а перш за ўсё бацькі, а пазней школа і сродкі масавага ўздзеяння.

Лёс Данусі — прыклад адзін з многіх, які пацвярджае гэтыя меркаванні. Расла яна на гэтым хутары, не прадчуваючы, што над яе маленькай галованькай збіраюцца чорныя хмары. Слухала матчыны калыханкі, паўтарала за мамай яе малітвы — шчаслівая бестурботным дзіцячым шчасцем у звычайнай сялянскай хаце, дзе пакорліва дзякавалі Богу за хлеб, калі ён быў, і за ўраджай, калі ўдаваўся, і за жывёлу ў хляве, і за здароўе ў сям'і...

Вайна закончылася. Яніна і Андрэй Цабаі надалей карпатліва палівалі потам загоны сваёй гаспадаркі. Дануся забаўлялася з іх сынам, даглядала гусей. Звычайны лёс звычайнага вясковага дзіцяці...

Аднойчы выклікалі Андрэя Цабая ў гмінную кантору. Калі там апынуўся, дык накіравалі яго да нейкага ваеннага камендaнта. Так там называлі гэтага чалавека ў афіцэрскім мундзіры.

— У вас на выхаванні знаходзіцца рускае дзіця?! — нібы запытаў, а хутчэй ужо заявіў гэты камендант.

Селянін адразу ўцяміў, што няма чаго крывіць душой і скрываць праўды, бо ўжо хтосьці „добразычлівы“ зрабіў сваю работу, і цяпер яму, Андрэю Ца-



Кароль Ягайла. Ян Беда. Торунскае ваяводства.

цікаўленні народных творцаў надта ж разнастайныя. Нельга не заўважыць таксама, што і спосабы і ўменні валодання разцом у кожнага майстра розняцца. І такім чынам паўстае своеасаблівы свет народнай разьбы з толькі яму ўласцівымі тэмамі, сімваламі, спосабамі выяўлення ідэй і пачуццяў.

З выстаўкі відаць, што ў гэтым свеце сучаснай народнай разьбы ў Польшчы выразна вылучаюцца сваёй адметнасцю рэгіёны Малапольшчы, Шлёнска, Памор'я, Варміі, Мазоўша і інш. Няцяжка заўважыць, што і Падляшша, пачынаючы ад паазер'яў на поўначы, Аўгустоўскага, і да Уладаўскага на поўдні складае ў народнай разьбе адметны сваімі асаблівасцямі рэгіён. Нашай разьбе ўласціва своеасаблівая задуменнасць, якая так яскрава выяўляецца ў працягванні і развіванні традыцый Хрыста Маркотнага, пазбяганне рэзкай яскравай афарбоўкі і выяўленне натуральнай красы драўніны і выкарыстоўванне яе мяккай спакойнай афарбоўкі. Падляшскія разьбяры таксама пазбягаюць здаблення сваіх работ рознымі пабочнымі дэталямі і дадаткамі. Яны любуюцца ў цвёрдым матэрыяле — цяжкім у апрацоўцы, але арыгінальным сваёй фактурай.

З наведвання гэтай арыгінальнай выстаўкі выносім трывалае пераканане, што народная разьба — гэта цікавая форма мастацкага выяўлення і арыгінальны ўклад у культуру працоўнага чалавека вёскі і горада.

**М. Гайдук**
Фота аўтара



Тадэвуш Касцюшка. Люцыян Барута з Драгічына.

баю, прыдзецца праглынуць гэтае горкае, мутнае пітво.

— На аснове дагавору між урадам Польшчы і Савецкага Саюза аб узаемнай рэпатрыяцыі насельніцтва, — гаварыў афіцэр з пазалочанымі пагонамі, — мы ўпаўнаважаны заапекавацца ўсімі сіратамі, якія асталіся на тутэйшай тэрыторыі.

Андрэй стаяў, слухаў і маўчаў. Толькі чамусьці безупынку ўзіраўся ў гэтыя пазалочаныя пагоны афіцэра. Афіцэр паглядзеў у нейкія паперы і зноў адазваўся:

— Значыць, у вас на выхаванні астаецца руская дзяўчынка. Ад імя Савецкай улады я выказваю вам самую шчырую і сардэчную падзяку за дагэтуляшнюю апеку, за праяўлены патрыятызм і адвагу ў нашай супольнай барацьбе з фашызмам.

Афіцэр працягнуў селяніну руку і моцна ды шчыра паціснуў яго мазолістую далонь. Андрэй канчаткова ўжо астаўбянеў, але надалей маўчаў, заціснуўшы вусны.

— Мы пастараемся ўзнагародзіць вас за ваш труд і расходы, прысвечаныя выхаванню гэтай дзяўчынкі, — добразычліва ўсміхаючыся, гаварыў афіцэр. У яго голасе праяўлялася шчырае сяброўства і сапраўдная ўдзячнасць гэтаму польскаму селяніну. — А заўтра дастаўце, калі ласка, гэтае дзіця на зборны пункт у Беластоку, — афіцэр назваў дакладны адрас і пажадаў селяніну ўсяго найлепшага ў яго жыцці. Магчыма, ён нават і не заўважыў, што ў Андрэя лімонаў, што ў Андрэя ліхаманкава пачалі дрыжаць рукі, а вочы напоўніліся слязьмі. Селянін, не сказаўшы ані слова, на мяккіх нагах, быццам падрэзаны, пакінуў гмінную кантору і толькі тады, калі апынуўся за дзвярыма, на вуліцы, толькі тады подбегам накіраваўся на свой хутар.

— Маці, бяда! — зароў, не паспеўшы яшчэ аддыхацца. — Забіраюць у нас Данусю!

Расплакаліся абое, а выплакаўшыся, пачалі разам думаць, што рабіць, як быць. І прыдумалі, што Яніна з дачкою схаваецца ў сваякоў, якія жылі ў суседняй вёсцы, даволі далёка ад Цабаёвага хутара.

— Некалькі дзён паседзімо мы там, што нібыта ў працы на полі прыехалі дапамагчы, а заадно і дачку я з сабою ўзяла. А ты кажы, што на зборны пункт Данусю адвёз і нічога больш не ведаеш, — талкавала жонка, — што нібы сам не разумееш, чаму так доўга жонкі яшчэ няма. Можа і шукаць нашай Данкі не стануць? — Яніна заадно суцяшала і сябе, і свайго мужа.

Гэтая сялянская хітрасць, на жаль, не выратавала Цабаёў ад клопатаў. Неўзабаве на яго хутары паявіліся прадстаўнікі польскай дзяржаўнай бяспекі. Яніна Цабаёва паспела схавацца з дачкою. Работнікі органаў бяспекі на гэты раз і не думалі аб выяўленні якой-колечы ўдзячнасці селяніну за тое, што ён заапекаваўся беднай сіроткай. Коратка і строга папярэдзілі яго,

(Працяг на стар. 8)

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, прыснілася мне, што вось я хаджу па могілках з нейкім мужчынам. Усюды тут поўна магіл. Падыходжу я да аднаго месца і кажу: „Вось яно будзе маё!“ І так я сама сабе падумала: чаму я выбрала такое вузкае месца, якое засталося каля магілы маёй мамы? (А там жа сапраўды ёсць яшчэ месца на адну асобу).

І сніўся мне зараз жа други сон, быццам бачыла я раз'юшанае мора, страшэнныя хвалі. Я глядзела на неба, але ўсё засланяла мне хваля, якая была незвычайна высокая, як сцяна. І раптам я апынулася ў лодцы, якая хісталася на вадзе. Пачынаю крычаць, што не дабяруся да берага. У гэтым моманце сон перарваўся. І вось я зноў быццам знаходжуся з сынам у нейкім доміку, высока над морам. Пазіраю за морам. Яно надалей бушуе. Неўзабаве хваля падыйшла пад домік і пачала яго падмываць, апырскала мяне і сына.

А неўзабаве мне прысніўся і трэці сон. Быццам вішу я на шнурку, прычэпленым да галіны дрэва. Я знаходжуся ў такой пазіцыі, што ў любы момант магла б зваліцца і моцна пабіцца. Але тут паяўляецца мой знаёмы з даўнейшых гадоў. Ён падыходзіць да мяне, бярэ мяне на рукі і вызваляе ў той момант, калі я вось-вось ужо мела зваліцца з той галіны.

Дарагі Астроне! Парай, што могуць абазначаць гэтыя сны. На маю думку, усе яны нядобрыя. А да таго хачу яшчэ дадаць, што амаль кожную ноч сняцца мне нейкія мужчыны — знаёмыя і незнаёмыя. Што б усё гэта магло абазначаць? І яшчэ хачу заўважыць, што пасля гэтых сноў я адчуваю сябе вельмі стомленай.

**Жэня**

Жэнечка! Твае сны сапраўды не вельмі добрыя.

Першы сон сведчыць аб тым, што нехта цябе ў нечым абвінаваціць, а нават абвінавачванняў будзе шмат, так як было на могілках шмат магіл. Ты аднак паспахова выйдзеш з гэтага становішча. Можа цень тваёй маці-нябожчыцы табе ў гэтым дапаможа.

Другі твой сон пра раз'юшанае мора і высокія хвалі пацвярджае, што вакол цябе нарастаюць нейкія непрыемнасці, праз якія цяжка будзе табе прабіцца. Хваля ж была высокая, як сцяна, і яна засланяла табе нават сонца. Дапаўнае сон хістаючаяся лодка, з якой ты магла вываліцца, і падмываемы хваляй домік, у якім ты знаходзілася з сынам.

Трэці сон таксама сведчыць аб небяспецы. Падумаць толькі! Вісела ж ты на шнурку і вось-вось магла зваліцца. Мо сапраўды ў клопатах дапаможа табе і нейкі стары знаёмы.

**Астрон**

## Кутох практычных ведаў

**Плямы ад фарбы.** Пляму ад масляной фарбы змачыць сумессю шкіпінару і нашатырнага спірту, узятых у роўных частках. Плямы ад вадзяных і клеевых фарбаў змыць мыльным спіртам і прапаласкаць у цёплай вадзе.

## ЦІКАВІНКА

### І ЗВЁЗДЫ ПАГАСНУЦЬ, І СОНЦА НЕ ДАСЦЬ СВЯТЛА

Цяпер ведаем напэўна, што сусвет пастаянна расшыраецца. Так дзеецца ўжо 15 мільярдаў гадоў, г.зн. ад часу, калі ў нашым сусвеце не было яшчэ касмічных цел, а матэрыя мела постаць раскаленай плазмы. Вучоныя астрафізікі сумелі заглянуць далёка ў мінулае сусвету, у час, калі тэмпература ў плазме дасягала мільярда градусаў гарачыні і калі ў такіх умовах пачаліся хімічныя працэсы ўзнікання лёгкіх элементаў. Навука ўмее цяпер заглянуць аж у пачатак узнікання нашага сусвету. Цяжэй прадбачыць, што будзе далей у сусвеце. Але і тут чалавек на аснове навукі і розуму ўмее заглянуць у будучыню.

Узнікае пытанне: ці закончыцца калі-небудзь расшырэнне сусвету? Гэта залежыць ад густасці сусветнай матэрыі. Калі яна дастаткова густая, то раней-пазней сілы прыцягвання ўстрымалі б расшырэнне. Калі ж, аднак, сілы прыцягвання матэрыі невялікія, сусвет будзе расшырацца далей.

Вучоныя-астрафізікі даказалі, што якраз сілы прыцягвання ў нашым сусвеце ў 30 разоў слабейшыя, чым трэба было б для ўстрымання працэсу расшырэння — значыць сусвет наш будзе расшырацца ў далейшым. Што гэта абазначае для нашага сусвету?

Першае: няма ніякіх сумненняў, што прыйдзе час, калі пачнуць гаснуць звёзды. Пройдзе некалькі мільярдаў гадоў і Сонца пагасне, заменіцца ў „белага карліка" — касмічнае цела, не большае ад зямлі і халоднае. Звёзды, цяжэйшыя ад Сонца, будуць жыць яшчэ менш і залежна ад масы — заменяцца або ў нейтронныя звёзды — невялікія дыяметрам у некалькі дзесяткаў кіламетраў, або ў „чорныя дзіркі" — касмічныя целы з магутным гравітацыйным полем, якое не прапускае нават святла (таму чорныя).

Звёзды з меншай масай, чым Сонца, пражывуць найдаўжэй, але і іх такі ж лёс, што з часам заменяцца ў халодныя целы. (вл)

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ**

# ГУКАННЕ ВЯСНЫ

Элементы заклікання вясны часткова выступалі ўжо пры масленічным абрадзе. Спальванне чучала, што захавалася па сёння ў польскай культуры, як дзіцячая гульня, гэта ж не што іншае, як рэлікт даўняга магічнага дзеяння на прыход цяпла і ажыўлення зямлі.

Гуканне і сустрэча вясны — некалі цэлы абрад, наступаючы пасля развітання зімы, які пераклікаўся або выплываў з паасобных этапаў масленіцы, ахапляў масава даволі доўгі перыяд. І. М. Снегіроў пісаў: „Сустрэча і гуканне вясны распачыналася і трывала ў залежнасці ад клімату і месца ў розны час і рознымі спосабамі". Гэта выразна відаць, калі глянем на абрад з боку хрысціянскіх свят ці важнейшых падзей. Пачынаючы ад 40 Мучанікаў (22 сакавіка) элементы вітання і пахвалы вясны трывалі, зразумела, у зменных сваіх формах, аж да Юр'я (6 мая). Выступалі яны і ў Вялікі Чацвер, на Вербніцу, Вялікдзень, на Благавешчанне. Сведчыць гэта не аб тым, што ідэалізацыя вясны і ўзношванне яе боскасці выплывала з нагоды хрысціянскіх свят, але што хрысціянскія святы, выкарыстоўваючы кульмінацыйныя моманты гэтага абраду, прыстасаваліся да іх.

Першым вестуном вясны была птушка, яе прылёт нагадваў, што трэба рыхтавацца да палявых работ. Увесь абрад вітання вясны — гэта пахвала сонцу, гэта аграрна-магічная функцыя хлеба, гэта песні-закліканні і песні-просьбы, званыя вяснянкамі. У дзень 40 Мучанікаў людзі выпякалі сорак птушачак з цеста, званых жаўрукамі. Гэта не што іншае, як сімвал вясны. Жаўрук жа адна з першых веснавых птушак, ён вястун гэтай пары года. Аднаго выпечанага жаўрука кідалі ў печ — ахвяра агню, астатнія аддавалі дзецям і птушкам. Потым выпяканне жаўранкаў набрала формы „для дзяцей". Абрад паступова пераходзіў у від дзіцячых гульняў. Дзеці бралі гэтых „выпечаных птушак", насілі іх у руках або настромлівалі на кіёчкі і бегалі з імі па вёсцы, кожны сваю ўзнімаў як найвышэй да сонца. Часта залазілі на стагі ці стрэхі, застромлівалі іх там, а потым з зямлі збівалі шапкамі, сімвалізуючы прылёт. І гэтак гулялі цэлы дзень, а вечарам гэтых птушак з'ядалі. Часам з'ядалі толькі галаву, а рэшту кідалі ў раку.

Хлеб, агонь і вада паяўляліся часта ў абрадзе гукання вясны. У рускай культуры быў звычай, што ў Вялікі Чацвер з усходам сонца трэба было тры разы ўвайсці ў ваду і пакупвыліцца па зямлі. Затым узлазілі на стрэхі і спявалі песні-вяснянкі.

Вядомы таксама спосаб распальвання вогнішча над ракою, скаканне праз агонь і кіданне ў ваду спечаных з цеста птушак, што сімвалізавала провады зімы і сустрэчу вясны.

У некаторых мясцінах, на думку Снегірова, бусел быў сімвалам надыходзячай вясны і яму аддавалі пашану. Асабліва на Благавешчанне (7 сакавіка). Выпякалі тут так званую „буславу лапу", што распаўсюджана было да нядаўна на Бельшчыне. Частку аддавалі птушкам, частку з'ядалі, а, як правіла, адзін з пальцаў кідалі ў печ у агонь. Па словах, што „на Благавешчанне бусел павінен знесці ўжо яйка", можна меркаваць, што сваім прылётам гэтая птушка вясну прынесла крыху раней, а выпяканне „буславай лапы" — гэта пашана першаму яйку — сімвалу жыцця, што згодна са старажытнымі рымлянамі і грэкамі.

Буславу лапу ці жаўрукоў з'ядалі па-рознаму. Найчасцей на высокім месцы — нейкім узгорку. З'ядалі і клікалі вясну: „Забрыцце санкі, прынясіце саху і барану". Звярталіся не толькі да птушак, але і да самай вясны. Калі толькі пачынаў зыходзіць снег, ішлі на горку і спявалі: „Ой, чырачка-пташачка, не залятай далечка". Інакш кажучы, хадзілі „чыркаваць".

У прыпеўках, песнях шмат надзеі і клопатаў сялян пра ураджай, добры ўзыход. Часта ў песні паяўляецца матыў рэлігійны, што сведчыць аб напластоўцы культур.

„Благаславі, Божа,  
Зіму замыкаць  
І вясну заклікаць.  
Дай нам, Божа,  
Жыта і пшаніцы,  
Зялёнай травіцы.  
Дай нам, Божа,  
На хлеб-жыта род,  
А на статак плод,  
На людзей здароўе.

Але ёсць і выпадкі адваротнасці. Вербы, якія свенцяць на Вербніцу — свята, сімвалізуючае ўезд Хрыста ў Ерусалім, становяцца элементам магічнага ўздзеяння. Прынёсшы свянцоную вярбу дадому, „білі" ёю, гаворачы:

Вярба б'е, не я б'ю,  
За тыдзень Вялікдзень.  
Будзь здаровы, як вярба,  
Будзь бягучы, як вада,  
Будзь багаты, як зямля..."

Прасілі здароўя і багацця. Гэтай жа самай галінкай гаспадары выганяюць першы раз з зімы ў поле кароў, з ёю абыходзяць жытнія загоны і ўстромліваюць яе ў збожжа, каб тое расло ў колас такі, як лаза.

У канцы XIX ст. абрад сустракання вясны стаў распадацца, пераходзячы ў разрад дзіцячых гульняў. Е. Раманаў пісаў, што там, дзе ён распадаўся, вясну вітала на платах і на ўзгорках моладзь у 12—14-гадовым узросце. А і песні былі розныя — і любоўныя і сямейныя. На Беласточчыне гуканне вясны — гэта ўжо перажытак. Элементы, на аснове якіх можна толькі дадумацца аб даўнім абрадзе, захаваліся ў асноўным пры паркоўных святах — Вербніцы, Вялікадні, Благавешчанні, а ў большасці пры Юр'і.

**Міхась Шаховіч**

---

(Працяг са стар. 7)

# ЗМАГАННЕ ЗА ДЗІЦЯ

што мае неадкладна даставіць дзяўчынку на зборны пункт.

Андрэй Цабай ведаў, што з гэтай установай нікому не аплоціцца гуляць у хованкі. Найцяжэй было сказаць аб гэтым Данусі. Яна, бедненькая, сапраўды ніяк не магла зразумець, чаму нейкія дзядзькі прымушаюць бацькоў, каб яны аддалі яе чужым людзям.

— Дануся! — скрозь слёзы гаварыла маці. — Цябе бяруць у Расею, каб ты там вучылася.

— Я не хачу! Я па-руску не ўмею! Не аддавайце мяне! — плачучы, крычала дзяўчынка.

— Ты там лекарам станеш! — прабаваў суцішаць яе бацька. — І да нас тады вернешся.

— Не, не хачу! — плакала дзіця. — Я тут, у Міхалове, пайду ў школу!

І ўхапілася за матчыну шыю, і пачала яе цалаваць ды прасіць, каб не аддавалі чужым людзям.

— Колькі гадзікаў тады магло быць вашай Данусі? — цікавіўся я.

Яніна і Андрэй, параіўшыся, не змаглі, аднак, дакладна акрэсліць час гэтай заблытанай бюракратычнай мітусні, калі вырашаўся лёс гэтай дзяўчынкі.

— Яна яшчэ ў школу не хадзіла, — паясніла цётка Яніна. — А калі кончылася вайна, дык бадай ужо пяты годзік ёй настаў.

— Ну, дзіцятка, яшчэ зусім дурненькае дзіцятка, — дакінуў дзядзька Андрэй. — Як можна было яму паяснідь, для прыкладу, такую складаную справу.

Слова „для прыкладу" дзядзька Цабай паўтараў амаль у кожным сказе.

— Сказалі мы тады, для прыкладу, што разам з мамай паедзем у Беласток, каб наведаць сваіх знаёмых і купіць Данусі новую суконку.

І Андрэй Цабай павёз сваю выхаванку на зборны пункт. Паехаў у Беласток з іскрынкай надзеі ў сэрцы, што ўсё-такі ўдасца яму нейкім цудам вызваліць гэтую дзяўчынку ад эвакуацыі на радзіму.



Яніна Цабай.

— То ж не тая маці, што нарадзіла, а тая, што выгадавала! — рашуча заяўляе пані Яніна.

Сапраўды, у Беластоку Цабаі найперш спыніліся ў сваіх знаёмых.

— Мы сядзімо ў гэтых знаёмых і ад акна не адступаем, — апавядае цётка Яніна. — Чакаем яго, — яна кіўком галавы паказвае на свайго мужа. — Асабліва Дануся аж носікам да шыбы прыліпла, ды ўсё пытае:

— Дзе тата? Чаму таты няма?

А ён па нейкіх там канторах і ўстановах хадзіў і справядлівасці дабіваўся.

...І дабіўся. Як, якім чынам, у каго — аб гэтым Андрэй Цабай не захацеў мне гаварыць. Ды не ў тым справа. Справа ў тым, што гэтакім чынам назаўсёды вырашыўся лёс дачкі Фёдара Маскаленкі і Веры Міхайлаўны. Засталася яна на хутары пад Міхаловам, не ведаючы нічога аб змаганні за яе. А гэтае змаганне яшчэ, на жаль, прадаўжалася, аб чым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**  
Фота аўтара

# Робім самі цацкі










**САМАЛЁТ-РАКЕТА**

*Навучыліся мы ўжо складаць з лістка паперы кветку і лодку. Сёння запрашаем да забавы аматараў лятаючых у паветры аб'ектаў. Збудуем самалёт-ракету.*

*Прамавугольны лісток гладкай паперы складваем напалавіну ўздоўж (мал. 1). Да сярэдняй лініі прыкладваем верхнія вуглы (мал. 2). Затым зноў складваем да сярэдзіны атрыманыя новыя бакі лістка (мал. 3). Цяпер складваем усё напалову па заламанай лініі вугламі ўсярэдзіну (мал. 4). Бярэм адну палову і закладваем на знешні бок роўна да лініі пераломy. Атрымаем адно крыло самалёта-ракеты (мал. 5). Каб атрымаць другое крыло, робім тое ж самае на другім баку (мал. 6). Каб самалёт наш (мал. 7) лётаў добра ў паветры і не прызямляўся дзюбай, трэба ў хвасце скласці да сярэдзіны хвост і разлажыць пры дзюбе крылы (мал. 8). Самалёт запускаем, трымаючы так, як паказвае мал. 9. І запусціць трэба з разгонам, каб як найдаўжэй лётаў.*

*Прыемнай гульні.*

**Ваня Майстар**

# Вясёлы куточак

У краму прыйшоў чалавек і пытаецца:

— Ці ёсць у вас кашуля, такая, як на мне?

А прадаўшчыца на тое:

— Не, ёсць трошкі чысцейшая.

* * *

— Тата, настаўнік казаў, што мы на тое жывем на свеце, каб іншым памагалі.

— Ну, правільна.

— Дык навошта тыя другія на свеце?

* * *

— Юрка, не можаш ты прычасацца, калі прыходзіш у школу?

— Не, не маю грэбеня.

— Дык у таты вазьмі.

— А мой тата лысы.

* * *

— Колькі табе, хлопчык, гадоў? — пытаецца ў малога бабуля.

— Не ведаю, — адказвае той. — калі гэта ўвесь час змяняецца. Запамятаць цяжка.

* * *

— Дзедка, навошта табе аж трое акуляраў?

— Адны — каб чытаць, другія — у тэлевізар глядзець.

— А трэція?

— А тыя трэція мне патрэбныя, каб іншыя знайсці.

* * *

Да аднаго рассеянага прафесара звоніць тэлефон:

— Прафесар, у вас нарадзіўся сынок!

А прафесар на тое:

— Так? Вельмі рады. Скажыце аб гэтым маёй жонцы!




## ВЕЛАСІПЕД

Першае падабенства веласіпеда з'явілася каля двухсот гадоў назад. Двухколавае стварэнне француза Саўрака назвалі „веласіпедам", што ў перакладзе з французскай мовы азначае „хутка нясу".

Веласіпед заваяваў вядомасць хутчэй, чым перамяшчаўся сам. Яму сталі надаваць форму каня, льва, жорава.

Жыхар горада Бадэна, Дразьдзье-Соербурн унёс каштоўную прапанову: кіраваць веласіпедам з дапамогай руля.

Каля 170 гадоў назад уральскі майстар Артамонаў, які жыў у сяле Верхатур'е Пермскай губерні, вынайшоў першы ў Расіі двухколавы веласіпед з педалямі на восі пярэдняга кола. Ён праехаў з Верхатур'я ў Маскву і вярнуўся назад.

Затым ліверпулец Сміт зрабіў трохколавы экіпаж. Але ўсе хутка зразумелі, што трэцяе кола лішняе.

У 1817 годзе ў Парыжы адкрылася выстаўка, дзе паказваліся веласіпеды, блізкія па канструкцыі да сучасных. Аўтару лепшай мадэлі Эрнсту Мішо спатрэбілася на стварэнне свайго дзесяцігоддзе 17 гадоў.

А ў пачатку 30-х гадоў дзевятнаццатага стагоддзя веласіпед стаў ужо такім папулярным, што сталі праводзіцца веласіпедныя гонкі.

## БАДМІНТОН

Бадмінтон — прыгожая захапляючая гульня. У ёй удала спалучаюцца элементы і тэніса, і валейбола, і лёгкай атлетыкі.

Апісанні гэтай гульні сустракаюцца ў рускіх і замежных кнігах XVIII стагоддзя. А калі зазірнуць у тлумачальны слоўнік В. Даля, які быў выдадзены ў 1880 годзе, і адшукаць там слова „валан", то акажацца, што размова ідзе аб старажытнай гульні ў пярнаты мяч, які ў народзе звалі „ляток".

Старая гульня атрымала новую назву — бадмінтон — у канцы мінулага стагоддзя ад маёнтка герцага Бафорта Бадмінтон, які знаходзіўся непадалёк ад Лондана.

Аднойчы ў маёнтак сабраліся госці. Надвор'е не радавала іх. Ліў дождж. Пра пікнік не было чаго і думаць. І тады герцаг успомніў аб шарыку з пер'ямі, які яму прывезлі сябры з далёкай Індыі. І ў гонар роднага маёнтка герцага гульню і назвалі бадмінтон.

У Японіі ў бадмінтон пачалі гуляць значна раней — шэсць вякоў назад. Японцы гулялі драўлянымі ракетамі ў мяч, зроблены з буйной вішні і пер'я вагa хваста. Вішня з пер'ем высушвалася на сонцы. „Ойбане" — так называлася гэтая гульня.

У наш час гульня ў бадмінтон распаўсюдзілася па ўсім зямным шары. У розных кутках свету яе называюць па-рознаму.

# Пішуць школьнікі

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"-**

*Я хацеў бы, каб Лёнікаў сабачка называўся Кудлачык. Бо ён вельмі кудлаты. Лёнікаў сабачка вельмі прыгожы.*

**Раман Салавянюк,**
**вучань 4 класа. Трывежа.**

АД РЭДАКЦЫІ: Твая прапанова, Раманка, усім вельмі спадабалася. Але Лёнікаў сабачка ўжо мае сваё імя. Ён Зорчык. І ўжо прывыкаіўся да свайго імя. Сабачка ўжо падрос, слухаецца свайго гаспадара, вучыцца выконваць яго каманды і не мае, напэўна, намеру мяняць сваю клічку.

А прапанову Раманкі раю ўзяць пад увагу тым, хто мае намер завесці сабе маленькага сабачку.

**„Зорка"**

**(Працяг са стар. 9)**

## ЗОЯ

давала ўздыхнуць на поўныя грудзі.

Дзяўчынка нізка пакланілася папялішчу і пайшла. Пайшла не па дарозе, бо дарога прывяляла ў іхнюю Баравіну лютую смерць. Можа, і зараз па ёй шнырaць зверугі-карнікі. Зоя напрасткі цераз поле ўзяла кірунак на лес.

Яна яшчэ не ведала, ды і не думала пра тое, куды ідзе і дзе спыніцца, але добра ўсведамляла адно — лес цяпер яе самы лепшы, самы надзейны друг.

Лес сустрэў дзяўчынку шматгалосым птушыным шчэбетам, але яна яго не чула. Лясныя палянкі густа чырванелі буйнымі суніцамі, але Зоя не заўважала іх, хаця колькі ўжо часу ў яе роце не было і макавай расінкі.

Утаропіўшыся нерухомымі вачыма ў адну кропку, яна ішла і ішла, пакуль не адчула, што ногі ў каленях падгінаюцца. Тады села, абаперлася спіной аб цёплы камель сасны і заплюшчыла вочы. Павольна ў грознай няўмольнай маўклівасці наплыло на яе чорнае гумнішча з грудай чарапоў на таку. Дзяўчынка страпанулася, дзіка ўскрыкнула і адкрыла вочы.

Яна зноў звяла вейкі і зноў страпанулася. Але ўжо не ад жудаснага відовішча, але ад таго, што недзе зусім недалёка фыркнуў конь. Першай думкай было — схавацца. Зашыцца пад куст які ці ў папаратнік і не варушыцца, нават не дыхаць. Ды вось бяда — ні кустоў, ні густога папаратніку паблізу не расло. Бор быў голы як бубен — адны сосны, а пад імі шэры мох. Лепш было не кратацца з месца, каб не выдаць сябе.

Збоку данеслася:

— Слухай, Хведар, а можа гэта не дзіцячы крык, можа, заяц. Яны ж таксама неяк па-дзіцячаму крычаць...

— Эт, гаворыш... Я ж, можа, вясковы паляўнічы, а не студэнт з горада, як некаторыя... Недзе тут дзіця крычала...

Тупалі, пафырквалі коні, чулася гаворка. „Хоць бы не паліцаі, не карнікі", — бездапаможна тулячыся да сасны, думала Зоя.

— Дык вось яна, малеча! — радасна гукнуў над галавой густы бас. — Ты чаго крычала? Напалохаў хто?

Спалохана ўзняла вочы і ўбачыла двух коннікаў з аўтаматамі на грудзях — аднаго пажылога, вусатага, другога зусім маладога, амаль хлапчука.

— Адкуль будзеш? — зноў запытаў бас.

— З Баравіны, — прашаптала Зоя.

— Тады ўсё ясна, — саскочыўшы на зямлю, павольна прагаварыў вусаты. Ён асцярожна, нібы Зоя магла зламацца, падняў яе на рукі і перадаў маладзейшаму. — Садзі перад сабой у сядло і хутчэй у лагер. Цёткі Дашы адразу перадасі. Бач ты, учарнела ўся, нібы той вугалёк... Эх! — і адвярнуўся, пачаў нервова скручваць цыгарку.

Толькі цяпер дзяўчынка заўважыла на шапках коннікаў самаробныя зорачкі, і на сэрцы ў яе крыху адлягло: свае, партызаны...

**Працяг у наступным нумары.**

**Яўген Курто**




**АДГАДАНКА**

Здагадайся, хто грае на якім інструменце.



**Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

## ЗДАЕЦЦА

— Таак, то ты цяпер у „Ніве“? А не лепей табе было ў „Кур'еры“? Колькі людзей магло цябе чытаць, колькі тысяч. Што „Ніва“ — то не „Кур'ер“... Вы „Ніву“ таксама павінны выдаваць на польскай мове, людзі чыталі б яе.

— Хто?

— Ну, мы. А то вас усё старыя чытаюць.

— Ты малады.

— Як бачыш. Напісалі б па-польску, то і я пачытаў бы.

— Ты, здаецца, таксама беларус. Здаецца, калі ты хадзіў у школу, у горадзе слаўным і ад вякоў беларускім, беларуская мова яшчэ гасцявала ў мурах гэтае школы. Ты што, літары забыўся? Беларус!

— А што гэта за падзелы?! Я не горшы ад іншых, ты чаго чапляешся. Цішэй ты гавары, чаго крычыш на цэлы аўтобус!

— Тут, здаецца, усе сваякі... Я чула, збіраешся ў сталіцу кар'еру рабіць. Ты нават „марксістам“ стаў, каб цябе заўважылі. Пакуль што застраў у ваяводскім вялікім горадзе Беластоку?

— Ну і што? Гніць тут буду? Кожны хоча пажыць.

— А жыві ты, хлопец, жыві. Няхай табе Амерыка ўсюды будзе. Абы не ў нас.

**Вера Мяцёлка**





З чаго смяюцца суседзі.




## РАЗГУБЛЕНЫ

— Вы гаворыце, што прафесар настолькі разгублены, што лёг у ванну, не зняўшы адзежы. Ён, пэўна, наскрозь прамок?

— Не, ён па сваёй разгубленасці забыў пусціць ваду...

## СУСЕДЗІ

Задрыповічы жывуць такім нудным жыццём, што нават няма чаго падслухоўваць.

## СУПАКОІЎ

— Што вы робіце! Трэба было вырваць зусім іншы зуб!

— Супакойцеся, памаленьку я і да яго дабяруся.

## РОЗНАЯ ПЛАТА

Едзе малады задрыпанец возам. Ажно трапляецца яму дзяўчына і просіцца, каб той яе падвёз. Праехаўшы вярсту, задрыпанец і пачаў:

— Ой, якая ж ты белатвараў! А якія ў цябе прыгожыя вочы! І які ж у цябе...

Дзяўчына не сцярпела і кажа:

— Спыні каня, далей я пешкі пайду.

— Чаму?

— Бо ты зараз пачнеш да мяне дабірацца, ведаю я вашага брата.

— Такога ніколі не было і не будзе, — адказвае ёй хлопец.

— А чаму ж ты да мяне так гаворыш?

— **Бо я з прыгожых дзяўчат больш грошай бяру.**

**Хвароў маніяй былой вялікасці.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Хлопчык, які ўпершыню ўбачыў шатландца, што іграў на валынцы, гаворыць:

— Навошта, сэр, вы цiскаеце гэтае звераня? Калі б вы яго адпусцілі, яно перастала б скавытаць.

*

— У мяне падрыхтаваны новы нумар, — гаворыць фокуснік дырэктару цырка. — Я распілую жанчыну напалову!

— Ну і што тут новага? Гэта многія ўмеюць.

— У даўжыню?

*

Заходзяць двое ў гарэлачны магазін.

— Дык што, бярэм па два?

— Ды не, давай па тры.

— Ды па тры зашмат...

— Ну, то па два. Вось, — кажа прадаўшчыку, — дайце нам восем пляшак „Пладаягаднага“ ды па два цукеркі!

## САКРЭТ МАЙСТЭРСТВА

Майстэрства не ў тым,
Каб прыдумаць
найноўшае слова,
А ў тым, каб паставіць
Старое ў радочак талкова.

**М. Карун**

З „Весніка Задрыпоніі“

## БЕГ І ПАМЯЦЬ

Шырока вядомае аздараўляючае значэнне бегу. Новым доказам яго карыснасці служыць выпадак, які здарыўся з інжынерам Карачкевічам. Днямі, калі інжынер бег за аўтобусам, ён успомніў, што забыў дома выключыць прас.

## БОНТОН

**За сталом можа здарыцца, што вы дасце маху (упусціце нож, відэлец і г.д.). У гэтым выпадку не турбуйце гаспадыню дома (яна і так змучаная), а пачакайце, пакуль гаспадар ці сусед падасць прадмет, які ўпаў.**







## Курёзы

## ЗНАКАМІТЫЯ ГРАХІ

Удо Юргенс, аўстрыйскі спявак, за свае пяцьдзесят гадоў начоўп шмат і добрага, і грэшнага. 17-гадовым юнаком ён ажаніўся з прыгожай дзяўчынай з прыгожым імем Панья. Праз некалькі гадоў гэты шлюб развалілўся, але Юргенс і Панья па-ранейшаму працягваюць жыць у адным доме, які спявак калісьці купіў у Цюрыху (Швейцарыя). Тут жа зусім адкрыта жыве і любоўнік Паны, англійскі мастак Спенсер, які збіраецца ўразіць свет сваімі палотнамі аб прыгажосці чалавечага быцця. Сюды ж часцяком і таксама ж у адкрытую наведваецца „сяброўка“ самога Удо Юргенса, зусім маладзенькая студэнтка Карына. Нічога незвычайнага і ненармальнага ў такім дзівосным інтэрнацкім суіснаванні не знаходзяць ні старэйшыя, ні дзеці. „Наша сумеснае жыццё з Паньяй, — гаворыць Юргенс старэйшы, — не назавеш удалай жаніцьбай, але нас разам утрымліваюць узаемныя інтарэсы і... сімпатыя“.




**Выходзячы з сябе, падумай, як вярнуцца.**